www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 44 (4091)

10 чэрвеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



НАДВОР'Е

## Не пазагараеш...

Сапраўднае летняе надвор'е вернецца ў Беларусь толькі ў сярэдзіне наступнага тыдня, паведамілі сіноптыкі. Днём у аўторак-сераду чакаецца да +26°C.

А ў бліжэйшыя выхадныя прагназуюцца дажджы і навальніцы з парывістым ветрам. У суботу ўначы +7...+14°C, удзень будзе толькі +11...+17°C, на Гомельшчыне – да +20°C. У нядзелю ўначы – +4...+9°C, удзень – +15...+21°C (на Віцебшчыне і частцы Магілёўшчыны будзе крыху халадней).

АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

# Брысь!

Вдоволь нагулявшись по теплым улицам, это важное мероприятие своим присутствием решил почтить... кот. Он запрыгнул на подоконник открытого окна, огляделся по-хозяйски и, не заметив ничего подозрительного, спикировал на пол мягко, пружинисто, на четыре лапы. А потом вальяжно, по-хозяйски, не суетясь и не торопясь, прошел между рядами стульев прямо к столу президиума, остановился, повернул голову к выступающим, на мгновение задумался... и в один прыжок присоединился к ним, прямо перед носом начинавшего свою речь оратора.

«Брысь, брысь!» – и засмущался, и заулыбался тот, резким движением руки скидывая кота со стола. Однако с мысли не сбился, уверенно отрапортовал давнюю заготовку. Ведь на повестке дня была большая политика – выборы в парламент. Партия БНФ идет на них не в коалициях, а сама за себя. Выдвигает кандидатов не по всем 110 округам, но как минимум по 74-м. О победе говорить не приходится, но и задачу на эту политическую кампанию партия ставит другую – показать, что в стране есть оппозиция, есть альтернатива. Потому наблюдение за честным подсчетом голосов, мониторинг выборов – вопрос второстепенный. Самое важное – много кандидатов, которые самим своим присутствием докажут, что оппозиция еще жива, что она есть.

Кота эти речи не убаюкали, он ушел. Да и журналисты, надо признать, большого интереса к презентуемой политической стратегии ведущей оппозиционной партии не проявили: на мероприятие, которое, по сути, открыло горячий политический сезон, пришло всего пару человек...

Показательная, скажу я вам, картинка! Социологи, политологи, философы, журналисты давно ломают голову над «белорусским феноменом». Рейтинг Александра Лукашенко падает, доверия к власти у народа нет, но при этом рейтинги оппозиции все равно не растут. Просто заколдованный круг! В других странах народ если не поддерживает власть, то поддерживает оппозицию, если не поддерживает оппозицию – то горой стоит за действующую власть, а у нас наблюдается некое «белорусское чудо». В чем причина? Что за хрень?

На этот раз ответ подсказал (или правильнее говорить – просто показал) тот самый приблудный кот. Ведь, как ни крути, он и в политическом мероприятии поучаствовал, и, будучи вышвырнут, все равно приземлился на четыре лапы. Так и наша оппозиция. Не побеждать, но участвовать; показать себя, но не заявить о себе; во что бы то ни было – приземлиться на четыре лапы и гордо удалиться... Это и есть основные принципы существования. Наша оппозиция живет в режиме самосохранения, она давно не борется за власть, она давно вообще ни за что не борется. Так о какой поддержке народа, о каких рейтингах можно говорить?

Вот сейчас грядут выборы. Очень нужные белорусской власти выборы, так как от их проведения зависят дальнейшие отношения с Западом. Секрет полишинеля – что официальный Минск ведет с западными переговорщиками торг по поводу количества оппозиционеров, которых пропустят в парламент. Три это будет человека или пять? Или два? Или шесть?.. Кто это будет? Лебедько или Дмитриев? Статкевич или Абрамова?

Плохо? Да! Нечестно? Да! Обидно? Еще как!

Кто-то сомневается, что Александр Лукашенко никогда не позволит, чтобы в парламенте оказались такие политики, как Статкевич, Лебедько, Некляев? Никто не сомневается!

Но, с другой стороны, уговаривать Запад не вести никаких переговоров, стыдить белорусскую власть – это то же самое, что просить у неба погоду.

Нас предали? Безвыходная ситуация? Надо отказаться от борьбы?

Совсем нет!

Вот только 74 кандидата от Партии БНФ, почти столько же – от ОГП, еще под сотню от движения «За свободу» – это и есть отказ от борьбы. Это распыление сил и средств, это пыль в глаза и своему электорату, и зарубежным партнерам. 10–20 сильных кандидатов, 10–20 округов, на которых сосредоточены лучшие силы, лучшие умы, ноги, руки... И обязательно глаза, потому что круглосуточное наблюдение за выборами в наших условиях вопрос первостепенный. Вот это была бы борьба!

Чтобы обойти каждый дом, каждую квартиру, чтобы пожать руку каждому избирателю, чтобы дать бой и кандидатам от власти, и избирательным комиссиям, не надо рассредоточиваться по всей стране, по всем округам, по всем кандидатам, для которых участие в выборах – не вопрос победы, а вопрос строки в биографии. Наоборот, надо концентрировать силы.

Очевидные, казалось бы, вещи! Но почему-то в час икс, в преддверии выборов и во время выборов, у наших оппозиционных сил все переворачивается с ног на голову, все пересматривается и переоценивается – даже аксиомы политической борьбы, даже очевидные вещи. И это значит, что уже на старте политической кампании они подготовились к команде «Брысь!». И к тому, чтобы проиграть, но опять приземлиться на четыре лапы. У меня в этой связи только один вопрос: неужели так может длиться до бесконечности?..

ТЫМ ЧАСАМ

## Прэвентыўныя захады супраць Украіны

Пасол Расіі ў Беларусі на прэс-канферэнцыі ў Мінску патлумачыў, чаму каля мяжы з Беларуссю ў Бранскай вобласці знаходзіцца мотастралковая брыгада Узброеных сіл Расіі з Урала.

«Што тычыцца Клінцоў, то пры чым тут Беларусь? Я так разумею, што ў нас не атрымліваецца з Мінскімі дамоўленасцямі, ва Украіне радыкалізм зноў пачынае ўздымацца – акрамя Правага сектара фарміруюцца новыя сілы, зверхправыя, больш радыкальныя.

Ва Украіне пачынае перамагаць пункт вайны. А мы як бы не вельмі хочам, каб ён перамагаў. Калі пераможа, то яна магчыма і на мяжы з Расіяй. Таму гэта прэвентыўная рэч. Не бачу нічога радыкальнага ў гэтым», – сказаў Аляксандр Сурыкаў.

СМЕХАТУРА!

## Маральная шкода ў... 1 рубель

Як раней паведамляла “Народная Воля”, фатограф і блогер Антон Матолька падаў у суд на Белтэлерадыёкампанію. Айчынныя тэлевізіёншчыкі выкарысталі ў сваім сюжэце некалькі фотаздымкаў паўночнага ззяння, якія зрабіў Антон, не пазначыўшы яго аўтарства і не папрасіўшы дазволу.

На папярэднім судовым пасяджэнні, якое адбылося ўчора, 9 чэрвеня, у Вярхоўным судзе, Матолька зменшыў іск пра маральную шкоду ў 200 разоў. Калі першапачаткова фатограф ацаніў яе ў 20 мільёнаў, дык цяпер просіць толькі 1 рубель. Як паведаміў Матолька, яго фотаработы адпраўлены на экспертызу ў Акадэмію мастацтваў.

**Максім ПЛОТНІКАЎ.**

СТОП-КРАН

## Пад нагляд...

Днямі суд устанавіў прэвентыўны нагляд за маладзёжным актывістам Паўлам Вінаградавым.

Гэтага запатрабавала крымінальна-выканаўчая інспекцыя Маскоўскага раёна Мінска, спаслаўшыся на чатыры адміністрацыйныя парушэнні з боку актывіста з кастрычніка мінулага года, калі скончыўся тэрмін былога нагляду за ім.

*“Цікавае супадзенне: нагляд у мяне закончыцца 14 верасня, а выбары пройдуць 11 верасня,* – распавёў **Павел Вінаградаў**. – *Зараз мне нельга знаходзіцца па-за межамі пражывання пасля 19.00 (дарэчы, да мяне ўжо прыходзілі з праверкамі), забараняецца пакідаць межы краіны і нават горад без дазволу міліцыі. Акрамя таго, я павінен адзначацца ў міліцыі чатыры разы ў месяц”.*

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

РЭАЛІІ

## Пакупнікі знойдуцца?

У Мінску прэзентавалі красовер Bentley Bentayga, кошт якога пачынаецца ад 220 тысяч еўра.

У сталіцу Беларусі навінка трапіла праз некалькі месяцаў пасля афіцыйнай прэм'еры. Цікава, што, нягледзячы на астранамічную суму, беларускі дылер Bentley плануе рэалізаваць дзесяць Bentayga на працягу года. Адзначаецца, што, паколькі пастаўкі аўто ідуць праз расійскі офіс, кошт навінкі атрымаўся ніжэй, чым у краінах Еўропы.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА



# ...А табачок врозь

Взгляните, читатели, на этот снимок.

А сейчас вспомните народную пословицу: «Дружба дружбой, а табачок врозь».

Не это ли напоминают отношения России с Беларусью?

Чего ожидал А.Лукашенко от визита В.Путина в Минск? Конкретной поддержки Беларуси в трудное для нее время. Похоже, кое-что перепадет, но по большому счету рассчитывать не приходится.

Вот застопорились переговоры насчет цены на газ, который «Газпром» поставляет в нашу страну. Белорусские власти считают, что мы должны платить за тысячу кубометров не 142 доллара, а 80. Россияне упираются.

Премьер-министр Беларуси Андрей Кобяков заявил, что Минск и Москва пока не нашли общего языка. «Обсуждали и продолжаем обсуждать. Пока на конкретные решения не вышли, но есть направления, по которым будем продолжать диалог», – заявил Кобяков.

Понятно, что российские СМИ активно подхватили эту тему, освещая визит Путина в Минск. Вот какими впечатлениями поделился на страницах газеты «Коммерсант» известный журналист Андрей Колесников:

“Андрей Кобяков, видимо, с самого начала был обречен на тяжкую миссию начать говорить об этом (*цене на газ.* – **Ред.**) с российским президентом. Он встретил Владимира Путина в аэропорту. И тот подвез господина Кобякова на своей машине до Дворца Независимости, где их дожидался белорусский президент.

Причем я видел, как Андрей Кобяков выходил из машины Владимира Путина. Из нее вышел, не сразу, измотанный жизнью и крайне уставший от нее человек. Достаточно оказалось, видимо, получаса, чтобы основные силы покинули его. Он еще некоторое время стоял около машины в рубашке, держа в руках пиджак, и как будто решал, что ему делать дальше. Как жить.

А дальше эта его каторга продолжилась уже во дворце. Переговоры шли в закрытом режиме, но, по сведениям «Ъ», после двухчасовой встречи белорусы не получили в ответ «нет».

Судя по всему, российская сторона в конце концов пойдет им навстречу: мировые цены на газ ведь и в самом деле падают. Другое дело, что, когда пойдет газ по новым ценам, мировые цены, конечно, начнут расти, и окажется, что Россия опять повела себя так, как могла бы не повести. Но тут уж никто не удивится”.

Да, непредсказуем «старший брат»! А впрочем, не случайно народная мудрость гласит: «Дружба дружбой, а табачок врозь».

**Аркадий КОЗУБОВСКИЙ.**

РОЗГАЛАС

## Лёгка пісаць каментарыі, а што вам замінала самім прыйсці...

Урачыстае адкрыццё графіці “Мінск–Масква” на сталічнай вуліцы Магілёўскай скончылася складаннем пратаколаў супраць маладых людзей, якія адгукнуліся на імпрэзу, арганізаваную ўладамі з нагоды “дзён Расіі”.

Пад выявай хлопчыка ў чырвона-зялёнай бейсболцы (Беларусь) і дзяўчынкі (Расія) сабралася прыкладна сотня чалавек. У асноўным гэта былі сябры БРСМ і людзі сталага ўзросту.

Гэтую нешматлюдную маўклівую акцыю паспрабавалі ажывіць некалькі маладых людзей з бел-чырвона-белымі сцягамі і плакатамі, якія не ўхвалялі палітыку Расіі. Рэакцыя супрацоўнікаў міліцыі ў цывільным была імгеннай: актывістам-дэмакратам перакрылі дарогу, і яны вымушаны былі стаяць побач з натоўпам. На іх склалі пратаколы і абвінавацілі ва ўдзеле... у несанкцыянаванай акцыі і ў непадпарадкаванні міліцыянтам.

Акцыя выклікала розгалас у сацыяльных сетках. Карыстальнікі выказваюць актывістам словы падтрымкі і падзякі **Зміцеру ДАШКЕВІЧУ** за арганізацыю альтэрнатыўнай акцыі. Сам жа Зміцер Дашкевіч лічыць, што было б значна лепш, каб каментатары ўзялі ўдзел у акцыі, якая так ім спадабалася.

*“Даволі лёгка пісаць каментарыі, кагосьці асуджаць ці, наадварот, хваліць. Але што замінала прыхільнікам перамен прыйсці і выказаць сваю пазіцыю? У нас на фоне камуністычных сцягоў было якіх пяць нацыянальных, і яны так напалохалі ўсю міліцыю. А калі б была сотня нашых сцягоў? Тым больш што ў нас на працягу года нікога на суткі не садзяць, а выпісваюць штрафы. Ды і то не ўсім, а толькі арганізатарам і найбольш актыўным удзельнікам. Так, прынамсі, выглядае чарговая спроба легітымізацыі для Захаду”*, – сказаў “Народнай Волі” Зміцер Дашкевіч.

Акрамя яго адміністрацыйнае пакаранне пагражае актывістам **Уладзю Яроменку, Арцёму Клепецу, Яну Іванову, Віталю Любянчуку і Паўлу Пракаповічу.**

**Любоў ЛУНЁВА.**

БЛІЦ

# Хто марыў пра той дзень, калі ў Беларусі не будзе ніводнага рускага?

*Выступаючы пазаўчора на III Форуме беларуска-расійскага супрацоўніцтва, А.Лукашэнка сказаў, што ён памятае тыя часы, калі ва ўладзе быў нацыяналістычны ўрад, які марыў, каб у Беларусі не было ніводнага рускага.*
*Няцяжка здагадацца, які ўрад меў на ўвазе Аляксандр Рыгоравіч. Той, які быў зацверджаны Вярхоўным Саветам 12-га склікання.*
*Тагачасны парламент спачатку ўзначальваў Мікалай Дземянцей, затым Станіслаў Шушкевіч і Мечыслаў Грыб.*
*Хто канкрэтна ў 1990-я гады марыў пра тое, каб у Беларусі не было ніводнага рускага, “Народная Воля” вырашыла высветліць у шэрагу вядомых асоб, якія тады займалі адказныя пасады ў парламенце і ва ўрадзе.*

**Пётр Кузьміч КРАЎЧАНКА, з 1990-га па 1994 год – міністр замежных спраў БССР/Рэспублікі Беларусь:**

– Штосьці нічога падобнага не прыпомню...

**Алег ТРУСАЎ, намеснік старшыні камісіі Вярхоўнага Савета 12-га склікання па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны:**

– Гэтае пытанне лепш было б задаць Вячаславу Кебічу, які тады ўзначальваў так званы нацыяналістычны ўрад. Пачытайце ўспаміны Кебіча, які прызнаецца ў любові да Расіі, і ўсё адразу зразумееце. А калі вам цікава маё меркаванне, дык ніхто не марыў аб тым, каб рускіх у Беларусі не было.

**Ніна МАЗАЙ, з 1985-га па 1994 год – намеснік старшыні Савета міністраў БССР/Рэспублікі Беларусь:**

– Што тычыцца мяне, дык такіх настрояў яўна не было. А з 1994 года я ва ўрадзе не працавала, таму што была накіравана Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом у Францыю.

**Барыс МАКЕЙЧАНКА, член планавай і бюджэтна-фінансавай камісіі Вярхоўнага Савета 12-га склікання:**

– Такога не было. Можа быць, Аляксандр Рыгоравіч меў на ўвазе дэпутатаў ад апазіцыі пад лідарствам Пазьняка? Але колькі іх там налічвалася... Гэта была апазіцыйная меншасць у тым парламенце. Можна сказаць, іх жа пры ўладзе не было, маю на ўвазе тое, што не маглі яны на нешта ў гэтым пытанні паўплываць. А сярод астатняй дэпутацкай і ўрадавай масы нават і размоў такіх не было.

**Уладзімір ГРЫБАНАЎ, член камісіі Вярхоўнага Савета 12-га склікання па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю:**

– Я так разумею, маецца на ўвазе ўрад пад кіраўніцтвам Вячаслава Кебіча. Не было ў членаў таго ўрада такіх настрояў. Таму гэтыя словы Аляксандра Рыгоравіча – перабольшанне, прычым сур'ёзнае.

**Лявонцій ЗДАНЕВІЧ, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання, сябра камісіі па пытаннях архітэктуры і будаўніцтва (1990–1996):**

– Абсалютнае глупства! На пачатку 1990-х ва ўладзе не было дэмакратычных або нацыянальна арыентаваных людзей. Як мне па-іншаму данесці гэтую думку, нават не ведаю.

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ, старшыня Вярхоўнага Савета 12-га склікання (1991–1995):**

– Гэта не першае трызненне чалавека, які перамог на выбарах пад лозунгам, што толькі ён сябруе з Расіяй. Што тычыцца апошняга выказвання, дык гэта “бред сивой кобылы”. Так і напішыце.

**Павел КАЗЛОЎСКІ, міністр абароны (1992–1994):**

– Я ніводнага разу не чуў такіх размоў сярод кіраўніцтва. Наадварот – я адразу заявіў на першай калегіі Міністэрства абароны, што ў арміі не будзе ніякага падзелу па нацыянальнасці. У 1992 годзе мы правялі прысягу на вернасць Рэспубліцы Беларусь. Такім чынам мы давалі магчымасць тым жа расіянам, украінцам, узбекам, якія не жадалі служыць у нас, з'ехаць у свае рэспублікі. 99,9 працэнта вайскоўцаў не з'ехалі, а сумленна служылі нашай краіне. У арміі такога нацыяналізму ніколі не было. Другія дзяржаўныя структуры таксама кіраваліся гэтымі ж прынцыпамі.

Але пра гэта, магчыма, марыў нехта з Беларускага Народнага Фронту. Хто-ніхто казаў, што на высокія пасады ў першую чаргу павінны прызначацца беларусы. Калі я выступаў у Вярхоўным Савеце, то сказаў, што буду прызначаць на пасады не па нацыянальнасці, а па прафесійнай прыкмеце.

**Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ, старшыня праўлення Нацыянальнага банка (1991–1995):**

– Гэта яўнае глупства. Што яшчэ можна сказаць? Ніхто ніколі не рабіў такіх заяў. У тым ліку сярод людзей, якія знаходзіліся ва ўладзе.

**Апытвалі Алена МАЛОЧКА, Віталь ГАРБУЗАЎ, Дзяніс МАРЦІНОВІЧ.**

